№ 145 (497)

Пятніца, 14 жніўня 1998 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць — 5 разоў
у тыдзень

Кошт: у кіёсках і крамах — 3000 руб.,
у індывідуальных гандляроў —
свабодны.


*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

Якуб Колас

# Народная Воля



**Адкрыты ліст прэзідэнту Рэспублікі Беларусь А.Лукашэнку**

## Канечне ж справа не ў дэкрэтах...

Гэта няпраўда, што ўсе беларусы быццам бы абыякавыя да роднай мовы, яе лёсу, таго злачыннага курсу на яе вынішчэнне, які праводзіцца ўладамі нашай краіны. Гэтае пытанне хвалюе і мяне.

5 жніўня я пачуў зварот вядомага паэта Генадзя Бураўкіна да А.Р.Лукашэнкі аб пагрозе знікнення нашай мовы. Пачуў і адказ беларускага прэзідэнта: маўляў, дэкрэтамі мову не захаваеш.

У нечым, безумоўна, тут галава дзяржавы мае рацыю: адны загадныя метады не выправяць справу. Але ёсць і пытанне: значыцца, дэкрэтам мову не захаваць, а гвалтам выкараняць яе можна? За дзвесце гадоў, што Беларусь была "Северо-Западным краем" Расійскай імперыі, можна было не толькі мову зламаць, а і жалеза. А хіба ў савецкія часы палітыка адносна ўсяго беларускага была іншай, больш ашчаднай? Вядома, што наша рэспубліка была тады "перадавым" палігонам па пераадоленні "шкодных" нацыянальных асаблівасцей і ўліцці ў "адзіны савецкі народ". Нас, беларусаў, за гэта хвалілі, ставілі ў прыклад іншым народам былога СССР...

Чаму за тры вякі панавання на Русі захопнікаў-татар руская мова адалела, захавалася? Таму, што маскоўскім правіцелям і ў галаву не магло прыйсці ваяваць са сваёй мовай.

Канешне ж справа тут не ў дэкрэтах. Пачніце, шаноўны Аляксандр Рыгоравіч, размаўляць па-беларуску, на мове, якой прымалі прэзідэнцкую прысягу, як хутка — упэўнены ў гэтым — вашы чыноўнікі і журналісты зашчабечуць на роднай мове, і ў нашай адукацыйнай сферы разбуральныя (адносна мовы) працэсы зменяцца на процілеглыя. І ніякіх дэкрэтаў не спатрэбіцца, каб родная мова ажыла, стала квітнець і пачуваць сябе не так, як усімі пакрыўджаная Папялушка.

Не трэба казаць, Аляксандр Рыгоравіч, што па-беларуску нічога людскага не выкажаш. Неяк, з Божай ласкі, удавалася гэта Купалу, Коласу, Багдановічу, Мележу, Караткевічу, Танку і іншым выдатным талентам Бацькаўшчыны. Вунь украінскі прэзідэнт Л.Кучма, які ў школе і ВНУ вучыўся па-руску, амаль паўсюдна карыстаецца цяпер роднай, украінскай мовай. І гэта нармальна і натуральна: ён жа — украінскі прэзідэнт!

Дэкрэт аб шанаванні беларускай мовы нам, можа, і не зашкодзіў бы. Але галоўнае ўсё ж — свядомасць, душа, любоў. Без гэтага нічога не атрымаецца. Але пра якую любоў з вашага боку, паважаны беларускі прэзідэнт, можа ісці размова? Вы што, не ведаеце, як заціскаюць і зводзяць са свету Беларускі ліцэй? Ці як выкідваюць з памяшкання Таварыства беларускай мовы? Як журналісты баяцца з вамі размаўляць па-беларуску?

Помніцца, вяртаючыся з японскага Нагана і запыніўшыся на расійскім Далёкім Усходзе, вы выказалі падчас знаходжання ва Уладзівастоку думку, быццам нашы карані тут, у Расіі. Не згодзен. Мае карані, як і большасці маіх землякоў, — у родненькай Беларусі.

Думаю — і ніяк не магу зразумець: адкуль у многіх нашых кіраўнікоў такая нянавісць да ўсяго роднага, беларускага? Растлумачце, чаму? Вам многае можна дараваць як першаму, яшчэ нявопытнаму, беларускаму прэзідэнту — эканамічны правал, галечу большасці насельніцтва. Але скалечаную духоўнасць — ніколі! Нашы нашчадкі гэтага не даруюць.

**М.ЛІСІЦКІ,**
**пенсіянер, які ўсё жыццё вывучаў рускую мову, але ніколі не адхінецца ад роднай беларускай.**
Мінск.

**Візіты**

## Лідэраў жаночых арганізацый запрасілі на "агледзіны" ў Германію

Актывісткі жаночых аб'яднанняў Беларусі адпраўляюцца 18 жніўня з дзесяцідзённым візітам у Германію. Старшыня Жаночага хрысціянска-дэмакратычнага руху Людміла Пеціна адзначыла, што яны маюць на мэце азнаёміцца, як вырашаюцца жаночыя праблемы ў "цывілізаваным грамадстве". У складзе дэлегацыі будуць прадстаўніцы Жаночага хрысціянска-дэмакратычнага руху, кінастудыі "Таццяна", жаночага недзяржаўнага інстытута "Энвіла", палітолагі, псіхолагі.

У першую чаргу, паведаміла Людміла Пеціна, беларускія ўдзельніцы азнаёмяцца з жаночым рухам у Германіі, сістэмай самакіравання і развіццём жаночага бізнесу. Яны наведаюць Бон, Дортмунд, Дюсельдорф. Там у іх адбудуцца сустрэчы ў бундэстагу, са спадарыняй бургамістрам раёна Дортмунд-Менгедэ, упаўнаважанай Дортмунда па праблемах жанчын, жанчынамі-паліцэйскімі.

Жаночыя лідэры Беларусі плануюць таксама сустрэцца са старшынёй Парламенцкай асамблеі Савета Еўропы Лені Фішэр. Акрамя гэтага, яны наведаюць біржу працы і цэнтр па падтрымцы занятасці жанчын, дыяканічныя ўстановы для "ўшчэмленых у правах жанчын", а таксама місію па працы з жанчынамі "сэксбізнесу", якія вырашылі парваць з гэтай "прафесіяй". Само сабой, беларускія жанчыны будуць сустракацца і з нямецкімі сем'ямі ў "нефармальных абставінах".

Як паведаміла Людміла Пеціна, па прыездзе ў Беларусь яны збіраюцца падрабязна расказаць аб выніках сваёй паездкі. А яе арганізатарамі сталі міжнародныя адукацыйныя цэнтры (IBB) у Дортмундзе і Мінску і мінскі Жаночы адукацыйна-кансультацыйны цэнтр.

**Наталля ВАЛАКІДА.**

**Громкое дело**

## Скорее всего, дело Андрея Климова судебной перспективы не имеет

Такой вывод сделали журналисты после пресс-конференции, проведенной в Прокуратуре Республики Беларусь

В связи с очередным продлением героям громких дел срока пребывания в СИЗО в Прокуратуре Республики Беларусь провели пресс-конференцию. Журналистам заявили, что дела Василия Старовойтова и Василия Леонова имеют судебную перспективу. Судебный процесс над Тамарой Винниковой витает в туманной дали ее болезни. А о судебной перспективе дела Андрея Климова заместители Генерального прокурора даже не заикались, поскольку, видимо, таковая не вырисовывается. Тем не менее парламентарию, арестованному без санкции законодательного органа, срок содержания под стражей увеличили до конца года.

Депутат Верховного Совета 13-го созыва Андрей Климов вот уже полмесяца находится в тюремной больнице. Медики разбираются с последствиями полугодовых моральных истязаний крепкого здоровьем и духом тридцатилетнего парламентария. Факты эти получили международную огласку, и прокуратура теперь пытается оправдаться перед общественностью за свои действия. Только делает прокуратура это, мягко говоря, неуклюже. Заявляет о том, что Андрея Климова положили в тюремную больницу, чтобы исключить инсинуации (клеветнические измышления) в негосударственных изданиях, но не допускает на пресс-конференцию независимых журналистов, пишущих в эти самые негосударственные газеты. Естественно, что, не имея информации официальной, независимые журналисты вынуждены пользоваться информацией неофициальной. А посему господа-чиновники пусть обижаются сами на себя.

Ведь иначе как ложным заявление прокурорских "иерархов" о том, что "амбулаторное обследование не выявило у Андрея Климова каких-либо серьезных заболеваний", назвать не могу. Не было амбулаторного обследования! Парламентарию-узнику до помещения в тюремную больницу анализов в СИЗО не делали. Белорусская прокуратура, оказывается, не только помимо суда устанавливает виновность, но и вместо врачей ставит медицинский диагноз (?!).

Заместители Генерального прокурора П.Иваненко и А.Ивановский не связывают резкое ухудшение здоровья Тамары Винниковой с многомесячными допросами и психологическим давлением следствия. Она, мол, была серьезно больна еще до ареста. Тогда, позвольте спросить, по какому праву больного человека, тем более женщину, целый год томили в каземате?

Что касается Андрея Климова, то, по заявлению его жены, до ареста Андрей на здоровье не жаловался. Куда за полгода содержания в застенках режима делось здоровье депутата-оппозиционера? И почему, не найдя в течение полугода подтверждений предъявленных обвинений, парламентария продолжают удерживать под стражей?

**Валерий ЩУКИН, депутат Верховного Совета 13-го созыва, секретарь парламентской комиссии по национальной безопасности, обороне и борьбе с преступностью.**

**Острый разговор**

# КУДА ЖЕ МЫ ДВИЖЕМСЯ — В РАЙ ИЛИ В АД?

*Мы уже привыкли к постоянным утверждениям представителей власти о высоких темпах развития экономики Беларуси. Не так давно сам президент страны Александр Лукашенко, отвечая на вопросы читателей газеты "Правда-5", заявил, что в нашей республике "самый высокий в Европе прирост производства". Но если это так, то почему у нас совсем низкие пенсии и зарплаты, а цены постоянно скачут вверх? Ведь при успешном развитии экономики такого не бывает. В тех же развитых европейских странах прирост производства составляет лишь где-то 3—5 процентов, а уровень жизни там вон какой высокий.*

*Что же в самом деле происходит у нас в экономике? Мы попросили высказать свои суждения на эту тему заместителя председателя Федерации профсоюзов* ***Франца Петровича ВИТКО.***

*Ниже публикуем два взгляда на проблему — президента страны и Ф.Витко. Пусть читатели решают сами, кто из них говорит правду.*

**Точка зрения президента**

### *Александр ЛУКАШЕНКО:*
### "В Беларуси самый высокий в Европе годовой прирост производства"

Это заявление президент страны сделал газете "Правда-5", отвечая на вопросы ее читателей. Затронув тему экономической ситуации в Беларуси, Александр Лукашенко привел данные за первое полугодие 1998 года: по сравнению с соответствующим периодом прошлого года ВВП возрос на 12,5%, объем промышленного производства — на 13,5%, сельскохозяйственного — на 7%.

Президент отметил, что в основе экономического курса республики — "неприятие "шоковой терапии", обвальной либерализации цен и тотальной приватизации". По его словам, "мы..., создавая многоукладную экономику, хотя и поддерживаем возникновение частного сектора, сохраняем государственную собственность и крупнотоварное сельскохозяйственное производство"...

**Точка зрения оппонента**

### *Франц ВИТКО:*
### "Более 80 процентов предприятий являются потенциальными банкротами... нарастает "снежный ком" задолженности по зарплате"

Не будем ни умалять, ни преувеличивать значение достигнутых в последнее время результатов. Попытаемся беспристрастно разобраться в происходящем.

Действительно, основываясь на некоторых статистических данных, можно сделать вывод о том, что в последнее время у нас происходит заметное оживление производства, сопоставимое с темпами первых советских пятилеток. Об этом свидетельствует обобщающий показатель развития экономики — валовой внутренний продукт, который в сопоставимых ценах вырос за январь — июнь с.г. по сравнению с аналогичным периодом прошлого года на 12,5 процента.

Промышленное производство дало прибавку 13,5 процента. Увеличилось производство товаров народного потребления. Фактически возросли на 28,8 процента инвестиции. Меньше стало безработных. Заметно возросли розничный товарооборот и объем платных услуг, оказываемых населению. В соответствии с государственной статистикой увеличились реальные денежные доходы населения, начисленная среднемесячная заработная плата одного работника. Замечу, что положительная динамика этих показателей сохраняется с конца 1996 года.

Казалось бы, можно радоваться достигнутым результатам, но не будем спешить. Давайте посмотрим, какой ценой это достигнуто и обеспечивается ли реальный выход страны из кризиса?

К сожалению, более детальный анализ позволяет сделать вывод о том, что рост объемных показателей не сопровождается адекватным улучшением качественных показателей развития экономики, что было бы вполне логично в условиях оживления и экономического роста. В текущем, как и в прошлом году, экономика продолжает функционировать в условиях галопирующей инфляции, что уже само по себе не может свидетельствовать о преодолении кризиса. Так, по прогнозу на 1998 год, среднемесячный прирост потребительских цен не должен превышать 2-х процентов, а фактически он составил 3,4 процента. О неэффективном, затратном характере развития экономики свидетельствует и то, что доминирует инфляция издержек, а не инфляция спроса.

Растут запасы готовой продукции на складах предприятий, увеличиваются объемы незавершенного производства. Снижается его рентабельность. За 5 месяцев 1998 года она составила всего 10,9 процента против 12,8 процента в соответствующем периоде 1997 года. При средней оборачиваемости оборотных средств (90—100 дней) и среднемесячном росте цен на продукцию производственно-технического назначения (3—4 процента) нынешний уровень рентабельности (10,9%) не обеспечивает даже простого воспроизводства.

Выходит, что, наращивая выпуск продукции, предприятия работают себе в убыток, а это в конечном счете сказывается на состоянии основного и оборотного капитала. Первый безнадежно стареет, второго безнадежно не хватает. Производственные фонды ветшают. Оборотные средства "вымываются", предприятия ходят "в долгах, как в шелках". Доля убыточных предприятий на 1 июня с.г. составила: по народному хозяйству 24 процента, в том числе в промышленности — 19, в сельском хозяйстве — 20,4, в торговле и общественном питании — 19,5, в жилищно-коммунальном хозяйстве — 48,1 процента.

По состоянию на 1 июня с.г. просроченная дебиторская задолженность субъектов хозяйствования составила 49,8 трлн. рублей, а просроченная кредиторская — 66,4 трлн. Сами по себе эти задолженности не страшны, если субъекты хозяйствования платежеспособны. К сожалению, о наших предприятиях такого не скажешь. По промышленности, например, этот показатель составляет 16 процентов. То есть, упрощенно, более 80 процентов промышленных предприятий республики не в состоянии оплатить свои просроченные долги и являются потенциальными банкротами. Можно представить себе социальный взрыв, если это станет де-факто.

В ряде отраслей положение еще хуже. В жилищно-коммунальном хозяйстве, например, располагают средствами, чтобы погасить просроченную кредиторскую задолженность только на 11,2 процента, а в сельском хозяйстве — всего на 10,2 процента.

Полезно в этой связи оценить и состояние внешнеторгового оборота. За 5 месяцев 1998 года экспорт произведенных в республике товаров составил 2997,3 млн. дол. США, а их импорт в нашу страну — 3782,0 млн. дол. США. В результате из своих скудных кошельков мы проинвестировали экономику стран-импортеров на 784,7 млн. дол. США.

Согласитесь, даже самый общий анализ ситуации позволяет утверждать, что социально-экономический кризис не преодолен, многие его болезни не излечиваются, а загоняются вглубь, что не может не сказываться на "социальном здоровье" общества, уровне жизни населения.

В этой связи — о некоторых проблемах оплаты труда и занятости. На первый взгляд зарплата, скорректированная на индекс потребительских цен, растет. Но опросы общественного мнения показывают, что основная масса населения этого не ощущает. Зарплата утратила свои стимулирующую и социальную функции. Ее средний уровень по народному хозяйству не обеспечивает расходы населения в пределах минимального потребительского бюджета (МПБ) с учетом иждивенческой нагрузки.

Более того, средний заработок на селе, в социальном обеспечении, культуре, искусстве, бытовом обслуживании, общественном питании оказался значительно ниже МПБ. Добавим к этому нарастающий "снежный ком" задолженности по зарплате, которая по состоянию на 25 июля составила 1 трлн. 704,4 млрд. руб., или 14 процентов месячного фонда оплаты труда.

Сопоставляя эти цифры и факты, невольно вспоминается сюжет из известного мультфильма, в котором один персонаж активно копает ямки, другой их столь же активно зарывает, но нет третьего персонажа, который между этими операциями опускал бы в ямки молодые деревца. Иными словами, нужно не производство ради производства, не занятость ради занятости, а эффективное, нацеленное на рост благосостояния трудящихся и их семей развитие экономики, нужна эффективная занятость, нужны эффективные рабочие места.

К сожалению, проводимая политика занятости во многом носит пассивный характер. Продолжать любой ценой нынешнюю политику сохранения численности работников на убыточных предприятиях, в организациях — означает обречь промышленность и сельское хозяйство страны на медленную, но гибельную деградацию.

В то же время и одномоментная легализация банкротства, потенциала скрытой безработицы в нынешней ситуации ничего хорошего дать не может. Очевидно, этому процессу должно предшествовать создание надежных социальных амортизаторов, способных поглотить высвобождаемых работников. А для этого необходима не только структурная перестройка экономики, активное внутри- и межотраслевое перераспределение рабочей силы, изменение системы подготовки и переподготовки кадров с учетом потребностей рынка труда, но и активное развитие малого и среднего предпринимательства.

Думаю, уместно в этой связи сослаться на опыт Москвы, где сегодня самый низкий уровень безработицы по Российской Федерации — всего 0,8% от экономически активного населения. И достигнуто это в значительной мере благодаря развитию предпринимательства. Свыше миллиона работников, высвобожденных с государственных предприятий, нашли работу в динамично развивающемся негосударственном секторе. Сегодня малый и средний бизнес дает почти половину доходов в городской бюджет. Но для того чтобы самостоятельная занятость могла в полной мере содействовать созданию рабочих мест и экономическому росту, здесь созданы правовые гарантии и условия для развития предпринимательства. У нас, к сожалению, все получается наоборот. В республике счет ликвидированных предпринимательских структур идет на сотни тысяч.

Всем субъектам социальной политики надо наконец понять, что по большому счету экономические реформы не только не дадут должного результата, но даже по-настоящему не начнутся до тех пор, пока будут существовать скрытые внутрипроизводственные резервы рабочей силы. И речь идет вовсе не о том, чтобы такую важную социальную гарантию, как право на труд, принести в жертву росту производительности труда, а о том, как урегулировать размещение рабочей силы путем ее высвобождения с одних мест и использования на других. Такое перераспределение в условиях рыночных отношений — неотъемлемый фактор экономического прогресса.

Продолжать в нынешних условиях строить социально-экономическую систему всеобщего равенства и справедливости, всеобщего благополучия — сизифов труд. Нужно предоставить возможность каждому трудоспособному самостоятельно и результативно позаботиться о себе в процессе продуктивной трудовой деятельности. Политика полной и эффективной занятости, механизм ее поддержания должны быть встроены в экономическую систему, в хозяйственный механизм, но в принципиально ином виде: не как ограничитель эффективности хозяйствования, а как условие развертывания работы по интенсификации экономики и повышению ее эффективности.

## Лета...

### Вясковыя замалёўкі Яўгена КОКТЫША

Хто калі-небудзь ездзіў да бабулі ў вёску, той, напэўна, ведае, што летам вёска жыве сваім асаблівым жыццём. Чараўнічую, нібыта казачную прыгажосць падглядзеў у гэты час фатограф Яўген КОКТЫШ.

**На здымках:** *Насця і Ігнат у гасцях у бабулі;*
*Хто вышэй падскочыць?*
*Юля з Ляхавіч.*







## Канікулы з... Богам

Адпачынак і богаслужэнні сумяшчае група школьнікаў, якія праводзяць канікулы ў вёсцы Дзярэчын Зэльвенскага раёна. Размова ідзе аб міністрантах — падлетках, якія дапамагаюць служыцелям каталіцкіх храмаў. Прыбылі яны сюды з розных месц Гродзеншчыны па накіраваннях настаяцеляў прыходаў.

Дзеці вывучаюць Біблію, удзельнічаюць у конкурсах і віктарынах рэлігійнай накіраванасці, сустракаюцца са студэнтамі духоўнай семінарыі. У той жа час яны працуюць на палях, дзе вырошчваюць агародніну, самі прыбіраюць памяшканне, дзе жывуць, мыюць посуд. Адным словам, набываюць розныя працоўныя навыкі. Унутраным распарадкам прадугледжаны таксама штодзённыя заняткі фізкультурай, экскурсіі пешшу, адпачынак на возеры.

За сем летніх змен, кожная з якіх працягваецца тыдзень, тут пабывае больш як 300 дзяцей. Такія лагеры арганізаваны таксама ў шэрагу іншых населеных пунктаў вобласці.

**Канстанцін БАЛАТЭВІЧ,**
**БелТА.**

## Устанаўліваюцца дыпламатычныя адносіны Беларусі з шэрагам дзяржаў

Прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка выдаў указы аб устанаўленні дыпламатычных адносін паміж Рэспублікай Беларусь і Рэспублікай Мазамбік, Рэспублікай Намібія, Рэспублікай Судан.

**БелТА.**

Народная Воля 14 ЖНІЎНЯ 1998 г.

**Рубам!**

# Ці будзе ў Мінску помнік Адаму Міцкевічу?

Ён павінен быць. Калі па вялікім рахунку, дык помнік слаўнаму земляку, якога ведае і шануе свет, ужо даўно павінен стаяць у цэнтры беларускай сталіцы. Але ўлады і ўчарашнія, і цяперашнія, як кажуць, і пальцам не паварушылі, каб ушанаваць памяць выдатнага паэта і грамадзяніна. Таму грамадскасць, ідучы насустрач двухсотгадоваму юбілею Адама Міцкевіча, вырашыла за ўласныя сродкі і на дабрачыннай аснове ўзвесці помнік слаўнаму сыну беларускай зямлі.

Але... Ім прыйшлося сутыкнуцца са шматлікімі бюракратычнымі рагаткамі. Доўга цягнулася валтузня вакол выбару месца. Актывісты Саюза палякаў, якія і выступілі ініцыятарамі ўзвядзення помніка, папрасілі даць дазвол на ўзвядзенне ў сквэрыку на рагу вуліц Свярдлова і Кірава, а заадно і перайменаваць вуліцу Ленінградскую ў імя Міцевіча. Ды гарадскія ўлады заўпарціліся: маўляў, як гэта перайменаваць вуліцу Ленінградскую?! І хоць ужо няма ў Расіі горада з назвай Ленінград, вуліца ў яго гонар у Мінску чамусьці павінна быць. Супраць яны і наконт размяшчэння тут помніка Міцкевічу. Даводзілі, што ўжо ёсць гатовыя нейкія фігуркі для гэтага сквера.

А ўзамен прапанавалі сквер на вуліцы Кісялёва і Камуністычнай, каля інтэрната акадэміі музыкі. Але ж сквер гэты "закрыты", у дварах каля яго не праходзіць ні адна ажыўленая магістраль. Навошта ж помнік такому славутаму чалавеку ды размяшчаць на задворках?

Эпапея з месцам цягнулася доўга, улады прапанавалі яўна не прадуманыя варыянты. Нарэшце спыніліся на скверыку на рагу вуліц Няміга і Гарадскі вал. Пачалося доўгае ўзгадненне. У кабінетах гарадскіх служб пыталі: "А хто такі гэты Міцкевіч?" Прыйшлося тлумачыць, што нашага земляка ведаюць і шануюць у многіх краінах свету. У другіх кабінетах здзіўляліся: "А навошта яшчэ адзін помнік гэтаму Міцкевічу? На плошчы ж Якуба Коласа ўжо адзін стаіць яму". Прыходзілася расказваць, што гэта розныя паэты.

Як жа чыноўнікі не ведаюць сваю краіну, яе гісторыю і яе лепшых сыноў! Гэта бяда нашага грамадства, якому дзесяцігоддзі ўдаўблівалі ў галовы імёны расійскіх паэтаў і бальшавікоў і выкрэслівалі памяць аб выдатных беларускіх дзеячах.

Пасля ўзгаднення месца закіпела праца. Варшава прапанавала рэдкі і выдатны бюст Адама Міцкевіча, мінскія спецыялісты на дабрачыннай аснове выканалі неабходныя праектныя рашэнні. Мінгарвыканкам даў дабро на ўзвядзенне помніка, але запісаў: "Узгадніць будаўніцтва ва ўстаноўленым парадку".

І зноў пачалося. Экспертны савет пры Міністэрстве культуры "спатыкнуўся" на памерах помніка. Маўляў, каля гасцініцы "Беларусь" мяркуецца "паставіць" вялізнага Пушкіна, на бульвары Шаўчэнкі аб'ёмны помнік украінскаму паэту і таму бюст Міцкевіча не будзе глядзецца. І вырашылі правесці конкурс на праект помніка Міцкевічу ў маі наступнага года, запрасілі сродкі на гэта. А хто іх дасць? Ды і юбілей паэта восенню і помнік пажадана прыўрочыць да падзеі.

Так што помніка выдатнаму сыну нашага народа хутчэй за ўсё восенню не будзе. А калі ж будзе?

Не зразумела, чаму цішком рыхтуецца помнік Пушкіну, ды яшчэ ў самым сэрцы Мінска, ля Нямігі? Навошта ён нам тут? У сталіцы Беларусі яшчэ няма помніка нашай святыні — Еўфрасінні Полацкай, слаўнай дачцэ Айчыны Рагнедзе, няма іх і такім сусветна вядомым асобам, як Скарына, Каліноўскі, Сапега, Шагал, Манюшка, Касцюшка, Астрожскі і дзесяткам іншых. Любому ж думаючаму чалавеку ясна, што нашчадкам прыйдзецца зносіць помнікі Леніну, Калініну, пераносіць "афганскі" і гэты, што мяркуецца хутка паставіць, Пушкіну, адрадзіць вуліцу Нямігу, сапраўдныя імёны вуліц і плошчаў. Навошта ж засмечваць гарадскую прастору чужародным?

А помнік Адаму Міцкевічу ў нас будзе. Як і помнікі Скарыне, Каліноўскаму, Еўфрасінні Полацкай, Рагнедзе, Шагалу, Касцюшку... Нікому не ўдасца адабраць у нас памяць і нашу гісторыю. Дарэмныя патугі.

**Алесь ДРАБЧУК.**

# Куды ўкласці прыватызацыйныя чэкі?

І сапраўды, куды? Паглядзіш на спіс прадпрыемстваў, "выстаўленых" дзеля гэтай мэты, і бачыш толькі тыя, якія дыхаюць на ладан. Які ж сэнс укладваць туды свае чэкі? Не, няма дурных. Прадаваць іх за бясцэнак таксама не мае сэнсу. Вось і трымаюць людзі гэтыя чэкі.

А побач ідзе іншая прыватызацыя. Аб ёй піша і друк. На аўкцыёны выстаўляюцца магазіны, цырульні, майстэрні, іншыя бойкія і даходныя аб'екты. Чаму іх не аддаюць пад чэкавую прыватызацыю? Відаць, каб ласункавыя кавалачкі трапілі ва ўласнасць сваіх людзей. Вось і хочацца спытаць у народнага прэзідэнта і яго ўрадаўцаў, якому народу яны служаць, — таму, якому выдалі на рукі прыватызацыйныя чэкі, ці таму, які сумніўнымі метадамі нагроб мяхі грошай?

Дарэчы, хачу спытаць у іх яшчэ вось пра што. Асобныя людзі купляюць магазіны, кватэры, майстэрні за сотні тысяч долараў. Я вельмі прашу Вас, паважаны прэзідэнт, няхай Вашыя падначаленыя паведамяць нам, Вашым выбаршчыкам, дзе яны працуюць і якая ў іх зарплата. Думаю, ім няцяжка будзе даведацца пра гэта.

І цяпер хачу звярнуцца з асноўным пытаннем: "Куды ж укладваць нам, простым працоўным, свае прыватызацыйныя чэкі?". Ці выдзеліць, нарэшце, урад пад іх вядучыя і перспектыўныя прадпрыемствы краіны і тыя аб'екты, якія цяпер хапаюць "прыхватызатары"?

**Сямён БУДКОВІЧ.**

Мінск.

**Мнение**

# Это безнравственно — делить жертвы тоталитарных режимов

Авторы "Обращения инициативной группы по восстановлению нормы ст.11 Закона РБ "О ветеранах" ("Народная воля" от 31 июля 1998 г.) абсолютно правы в том, что эта норма отменена незаконно, и совершенно правомерно требуют ее восстановления. Речь идет о льготах (50%-й скидке по оплате жилья, коммунальных услуг и электроэнергии), предоставленных законом, пострадавшим от политических репрессий в бывшем СССР и другим категориям ветеранов. Но к кому они, авторы письма, обращаются?

Верховный Совет 13-го созыва, единственный легитимный законодательный орган Республики Беларусь, в свое время защитивший эту норму квалифицированным большинством, преодолев президентское "вето", ныне распущен. В стране все решает один человек — президент. А он-то как раз и был инициатором лишения льгот реабилитированных в законном (судебном) порядке — немногих оставшихся в живых жертв политических репрессий коммунистического режима.

Если же обращаться к общественности, правозащитникам, политикам-демократам, то по большому счету надо ставить вопрос не о восстановлении ст.11 Закона РБ "О ветеранах", а о том, чтобы законодательно приравнять бывших узников сталинского ГУЛАГа к бывшим узникам фашистских концлагерей. И это будет в высшей степени справедливо. Война шла четыре года, а наши товарищи просидели в тюрьмах и лагерях родной страны по десять и более лет. И климат на Колыме посуровее, чем в Европе.

Вступая в XXI век, не пора ли прекратить делить жертв тоталитарных режимов XX века на "красных" и "белых"? Это безнравственно и несправедливо. Нас остается все меньше, невинных жертв истории. Большинство из нас все же пользуются льготами, поскольку являются инвалидами первой и второй групп. Но тем более обидно остальным, обделенным. Разве не удивительно, что с нашим, белорусским, удостоверением пострадавшего от политических репрессий можно бесплатно ездить в городском пассажирском транспорте в России, Украине, Литве, Латвии, но только не в самой Беларуси?

На предстоящих выборах органов власти (они состоятся раньше или позже) мы и наши близкие будем голосовать за тех кандидатов, которые поддержат наше требование о единых льготах для всех бывших узников тоталитарных режимов.

**А.ФИРСОВ, ответственный секретарь Гродненской областной ассоциации жертв политических репрессий.**

**Мини-интервью**

# Оскал железного века

***Белорусская рок-группа "Кали Юга" образовалась зимой 1992 года. Несмотря на известную краткость творческой биографии, команда уже обрела главное: собственное лицо и свой особый стиль.***

***Встретившись с лидером группы Юрием Горячко я конечно же попросил растолковать не совсем привычное нашему слуху название коллектива.***

— "Кали Юга" — понятие из древнеиндийской философии. Оно означает "железный век" — эпоху, в которую мы живем. Это эпоха зла, человеческой порочности... Вероятно, название повлияло и на музыку, которую мы стали делать. Наша музыка, говорят, местами мрачновата, пессимистична... Но мне так не кажется — она прежде всего реалистична.

Гран-при на фестивале "Рок-университет" дал ребятам право записи альбома в студии "Skat Rekords". Так, собственно, и появился первый и пока единственный альбом "Дороги". Лидер "Кали Юги", однако, относится к этой вещи отчасти критически:

— Я недоволен тем, как все получилось. Дело в том, что нам отвели только сорок часов — этого крайне мало. Мы работали в большой спешке: к тому же, это был первый опыт студийной работы... Хотя... альбом нравится людям, отзывы хорошие.

К этому можно добавить: альбом "Дороги" довольно быстро распространился среди минских меломанов еще до появления в тираже.

**— Юра, какова обычная выручка от концерта "Кали Юги"?**

— Ну, это когда как. В основном, выручки не бывает вообще.

**— А чем тогда музыканты группы зарабатывают себе на жизнь?**

— Не музыкой. Мы не играем ни в ресторанах, ни на свадьбах. Я никогда не рассматривал музыку как способ зарабатывания денег. Мне, естественно, хотелось бы совместить приятное с полезным, но сейчас это нереально... Если интересно, я работаю мебельщиком.

**— А другие?**

— Андрей Дементьев, гитарист, со мной вместе; Андрей Воробьев, наш клавишник, работает на Белмедпрепаратах; Островский Дмитрий, теперешний басист, по-моему, работает на трех работах вообще...



**— "Кали Юга" — четвертая?**

— Да... Я считаю, люди, которые в нашей стране занимаются музыкой, пытаются что-то делать, — просто, наверное, сильные люди...

**Александр ОТЛИВАНЧИК.**

**Демократия по-белорусски**

# Каждый нижестоящий должен получать меньше вышестоящего

*В июле 1998 года Хозяйственный суд Брестской области отклонил иски прокуроров Березовского и Дрогичинского районов к предпринимателю Галине Дребезовой о возвращении комбикормовым заводам вознаграждения, выплаченного в соответствии с заключенными между ними договорами.*

## Пролог

Березовский и Дрогичинский комбикормовые заводы в 1996 году заключили договоры с украинской фирмой на поставку зерна и под эти поставки взяли кредит. Для защиты от возможной недобросовестности бизнес-партнеров деньги в банк поместили на аккредитив.

Однако банк, нарушив условия раскрытия аккредитива (снятия средств со счета), деньги на Украину перечислил, зерно же на Брестчину так и не поступило. Заводы понесли миллиардные убытки. Многочисленные письменные обращения акционерных комбикормовых предприятий во все инстанции, включая прокуратуру, результатов не дали. Более того, в апреле 1997 года Березовская и Дрогичинская прокуратуры сделали "стрелочниками" пострадавших и возбудили уголовное дело по данному факту. У руководителей предприятий были проведены обыски.

В этой безнадежной ситуации правления акционерных комбикормовых заводов заключили соглашение о юридическом представительстве с предпринимателем Г.В.Дребезовой. В соответствии с договором, оплата труда ей определялась в процентах от суммы выигранного иска. До положительного решения вопроса все расходы Галина Владимировна оплачивала сама. Иначе говоря, при отрицательном исходе дела заводы дополнительных финансовых затрат на оплату юриста не несли.

Действия Галины Дребезовой оказались успешными. Суд иски удовлетворил, и банки вернули заводам деньги вместе с процентами. Правления акционерных обществ выплатили предпринимателю Г.Дребезовой в соответствии с договорами от 7 до 10 процентов комиссионных от суммы возвращенных заводу финансовых средств.

## Белорусская проза

Все вышеперечисленное особого интереса не представляет и может произойти в любой стране. Но вот дальше начинается белорусская действительность, суть которой нашим соседям по европейскому дому не понять.

Заработок предпринимателя Г.Дребезовой с учетом комиссионных, полученных от комбикормовых заводов, составил в 1997 году порядка 13 миллионов рублей в месяц. По сравнению с прачкой и кухаркой — много. Только ведь на Беларуси значительная часть руководителей получают и больше. Но — то начальство, а тут какой-то провинциальный юрист, получивший не по чину. И в Хозяйственный суд Брестской области поступили представления прокуроров Березовского и Дрогичинского районов о признании договора о юридическом представительстве — в части выплаты гонорара — недействительным и взыскании с предпринимателя Г.Дребезовой более половины полученного вознаграждения.

Выполняли ли райпрокуроры распоряжение вышестоящего начальства или действовали по собственной инициативе — не столь важно. В любом случае поступать надо строго по закону. Ведь в тех самых изменениях и дополнениях к Конституции, на которые постоянно ссылается нынешний режим, есть и такое: *"Государство гарантирует всем равные возможности свободного использования* **способностей** *и имущества для предпринимательской и иной не запрещенной законом экономической деятельности".* Увы, известный принцип вознаграждения "От каждого по способности — каждому по труду" предан на Беларуси забвению. У нас насаждается совершенно иная система оплаты труда: "Каждый нижестоящий должен получать меньше вышестоящего".

Прокурор Дрогичинского района, старший советник юстиции А.Денисейко свой иск в суд обосновывает статьей 66 Гражданского процессуального кодекса, устанавливающей оплату помощи адвоката в размере пяти процентов от удовлетворенной суммы иска. Безграмотность чиновника А.Денисейко, осуществляющего государственный надзор за исполнением законов, фантастична: не понимать, что в статье 66 ГПК говорится о возмещении проигравшей стороной расходов победителю на адвоката (?!). То — "контрибуция", которую могли наложить комбикормовые заводы на "побежденный" банк.

Хотя и этого сделать нельзя, поскольку иски к предпринимателям со стороны юридических лиц рассматриваются по Хозяйственному процессуальному кодексу, а не по Гражданскому. Но прокурорскому полковнику из Дрогичина сие неведомо.

Умение ориентироваться в законах — это элемент высшего образования. Однако Анатолий Денисейко и с арифметикой не в ладах. Дрогичинский комбикормовый завод выплатил Галине Дребезовой за произведенную работу 90 миллионов рублей. Половину она отдала государству в виде налога. Осталось 45 миллионов, а "законник" А.Денисейко направляет в суд иск на взыскание необоснованно полученных 60 миллионов рублей (?!). Только ведь и 45 миллионов рублей — это стоимость "готовой продукции", но никак не личный доход брестского предпринимателя.

Другой прокурорский полковник из Березовского района — М.Курилович — свой иск в суд по части суммы гонорара вообще ничем не обосновывал. Не соответствует трудовым затратам предпринимателя — и все! Только вот в каких единицах измерял этот чиновник способности юриста Г.Дребезовой?

## Эпилог

Правления акционерных предприятий исковые требования в суде не поддержали, поскольку без помощи Г.Дребезовой они вообще ничего не получили бы. Однако прокурорские полковники утихомириваться не собираются. По полученной мною информации, намереваются иски подавать вновь. На этот раз — о взыскании с провинциального юриста большей части гонорара в пользу государства. Предприниматель Г.Дребезова и так половину от заработанного выплатила в виде налога. Но надо еще отобрать!

**Валерий ЩУКИН.**

## *Васіль ГРОДНІКАЎ*



# Дзеці

## Іранічныя тлумачэнні старога "саўка" свайму аднагодку некаторых анамальных з'яў у краіне рынкавага сацыялізму

### Патрэбы новай пароды

Ты ведаеш, браток, мы можам сабой ганарыцца: беларусы, ад сівога дзеда да бязвусага салдата, — прадстаўнікі новай пароды людзей — "гома саветыкус". Нідзе няма такой пароды! І дакументы на нашу радаслоўную ёсць. Ну, вазьмі хоць бы наш новы пашпарт. У ім пазначана, што мы — грамадзяне незалежнай, дэмакратычнай і нават прававой дзяржавы пад назвай "Рэспубліка Беларусь". А гэта значыць, што мы — дзеці дачкі вялікага Савецкага Саюза. І гэта ўсім нам душу саграе. У нашых людзей у большасці яшчэ і пашпарт СССР захаваўся. Малайцы гэтыя "знахары" і "знахаркі" з Вярхоўнага Савета. Загаварылі-такі яго ад усякіх змен, а таму ён і па сённяшні дзень застаецца нашым родным "сярпастым і малаткастым". Добра, што са зменамі не дужа спяшаліся: можа, яшчэ і ненадоўга той Саюз разбурылі. Можа, ён, як той самы фенікс?! Попел жа яшчэ не астудзіўся і прымаўка — не дурніца: куй жалеза, пакуль гарачае. Можа, яшчэ, прыклаўшы намаганні, удасца што-небудзь зляпіць накшталт былога Саюза. Дзеля гэтага, бачыш ты, захавалі стары гімн БССР, што і сёння на досвітку на работу людзей паднімае з пасцелі. Аднавілі сцяг і герб. Праўда, прэзідэнт штосьці там выкінуў, штосьці падмаляваў, але, як кажуць мастакі-прафесіяналы, да асновы карціны не дабраўся. Мусіць, у нейкі момант яму штосьці падказала, што ён не мастак, бо мастакоў ні Магілёўскі педінстытут, ні сельскагаспадарчая акадэмія, якія ён закончыў, не выпускаюць. Але, дасягнуўшы неабходнай колькасці змяненняў, каб было ўсё-такі прысуджана аўтарства, дзякуй Богу, "мастак" спыніўся. Парода нашага чалавека такая, што калі ўжо возьмецца за што-небудзь, то пакуль не даб'е да канца, не здаволіцца. Вось і панятце "дэмакратыя" замянілі па прычыне нязвыклай для беларускага вуха назвы. І яшчэ таму, што вельмі ўжо буржуйскім духам ад яе несла, і начальству кожны раз, калі хто-небудзь прыгадае пра дэмакратыю, прыходзілася альбо зацiскаць нос, альбо чхаць, як сабаку ад тытунёвага дыму. Дык вось, як пахавалі дэмакратыю, тады з могілак адкапалі, пачысцілі і спаласнулі ў вадзе адабральных слоў свайго электарату... Што ты думаеш? Правільна, адміністрацыйна-камандную сістэму. Яна цяпер, браток, падфуфыраная замежнай касметыкай, выглядае ніколькі не горш, як перад смерцю. Парламентарызм (фу, якое слова брыдкае!) таксама палічылі для народа, ну, для новай пароды, абразлівым, а таму замянілі на слова "палата". Па-медыцынску, пагадзіся, не вельмі падыходзіць, а па-чэхаўску — тым болей. Хутчэй, я так думаю, планавалі ад рускага "ума палата". Ну, тут яны, па-мойму, трохі перастараліся. Дзе ж ты ў нас столькі разумных людзей знойдзеш, ды яшчэ на дзве такія палаты? Наўкола, куды ні кінь, адны шарыкавы, яго дзеці і ўнукі. Шарыкаў? Ды не. Быў такі адзін, але пра гэта пасля. От, ты збіў мяне з панталыку. Ага... Словы "сястра брацкіх народаў" быццам бы і пакінулі, але спакваля туды дыктатарскага духу напусцілі. Гэта, мусіць, каб "сястра" больш незалежна і самастойна выглядала. А замест генсека ў нас цяпер зноў "бацька". Але зараз ён называецца не "бацька ўсіх народаў", а "бацька ўсіх славян". Сэнс трошкі падкараціўся, затое — не грузін, хоць і з вусамі. КПСС таксама ўваскрэсілі з нябожчыкаў. Яна цяпер называецца КПБ і ПКБ. Гэта, праўда, што пнём па саве, ці савой аб пень — усё роўна саве непрыемна. Сутнасць, наколькі я разбіраюся, аднолькавая, хоць пішы разам — КПБ/ПКБ. У Германіі, напрыклад, партыі, праграмы якіх супадаюць, пішуць разам. Памятаеш, ХДС/ХСС?

Але ж гэтых дробных змен было недастаткова, каб задаволіць патрэбы новай пароды: парода выведзена такая, што зусім не ўспрымае ніякіх змен. А таму хуценька для такіх вось, як мы з табой, замшэлых "саўкоў" па метадыцы трохі забытага селекцыянера Лысенкі вывелі "грэйп" і назвалі яго Садружнасцю. Ну, скарочана СНД. Але трошкі прамахнуліся. Аказалася мала. Тады тэрмінова стварылі Саюз чатырох, а потым, каб і на гэты раз не аказалася мала, то і Саюз двух. Во, браток, колькі Саюзаў наляпілі! Хочаце Саюзы — наце вам аж тры! Але, пэўне, на гэтым не спыняцца. Вельмі дасведчаныя "селекцыянеры" пагаворваюць, што цяпер выводзіцца яшчэ адзін, на гэты раз універсальны гатунак, накшталт Саюза непарушнага. Дык вось, у гэты Саюз, чуў я, будуць зганяць усіх, каго па ахвоце, а каго, як калісь... Як, адкуль? З Садружнасці, Саюзаў, што нядаўна пастваралі, з розных злучэнняў. Маўляў, нажыліся сіротамі, гора зведалі, нават пастралялі адно ў аднаго, кроў адзін аднаму пусцілі, голаду і холаду нацярпеліся, а некаторыя вока пачалі класці на НАТА, на ісламскі фундаменталізм, то хуценька давайце рэзалюцыі з'ездаў прадстаўнікоў вашых народаў і гайда ў нашу агульную хату, якая будзе называцца... Якім абшчаком? Што ты гародзіш? Будзе на гэты раз называцца "Свабодалюбівы Саюз свабодных рэспублік". Скарочана — СССР. Зразумеў? А ты "абшчак"... Можна было б сказаць і больш інтэлігентна. Ну, скажам, інтэрнат. Правільна, як у студэнтаў. А для гэтага "інтэрната" ўжо ўсё падрыхтавана: ёсць гімн, ёсць герб, словы для гімна не трэба перапісваць. І зводны ваенны аркестр напагатове! Зажывём, браток, як і раней жылі! Кажаш, афіцыйна трэба ўсё аформіць? Ды раз плюнуць! Дзярждума Расіі за адзін прысест усё аформіць. Ты ж прыкінь: у Зюганава там колькі нашых шарыкавых? А ў Жырыноўскага? Аграрнікі — усе з нашых. Айчынныя палаты сам асабіста прэзідэнт падбіраў. Там усе — стопрацэнтныя шарыкавы. Ну, трохі могуць занатурыцца маладыя "саўкі", іх у Расіі яшчэ рэфарматарамі абзываюць. Але не можа быць! Нашы падамнуць іх пад сябе. Сілы яшчэ ёсць ды і вопыт які за плячыма. Ого!

### Надзея — адзіны паратунак

А пакуль што ідзе падрыхтоўка да таго Вялікага месяца (будзе гэта Вялікі Кастрычнік, Вялікі Ліпень ці Вялікі Снежань — інфармацыі на сённяшні дзень пакуль што няма). Пэўна, як і калісь, усё будзе залежаць ад таго, калі паспее рэвалюцыйная сітуацыя. Што гэта значыць? А тое, што і некалі: сёння яшчэ рана, заўтра будзе позна. Зробяць, пэўна, ноччу. Прыкмечана яшчэ здаўна: ноч — надзвычай зручны час. Пайшло такое, можа, з часоў Нерона, калі той менавіта ноччу Рым падпаліў. А можа, і ад злодзеяў пайшло ці ад трыццаць сёмага года. Тады, чуў, нікога днём не бралі. Хоць усё можа быць. Сёння ўжо бяруць сярод белага дня, прама ў рабочых кабінетах, з тэле- і кінакамерамі, пры яркім асвятленні, здымаюць на каляровую плёнку ды яшчэ "рапідам" (гэтак называецца запаволеная здымка), каб было спадручней спецслужбам абмяркоўваць у дэталях вынікі паспяхова праведзенай аперацыі. І каб пасля вучыць новыя пакаленні на гэтых прыкладах. Ды і смакаваць такое відовішча на БТ нашаму электарату, ой як хораша! Быццам цукрам на душу!

А каб ніхто не здагадаўся, ведаеш, розныя настроі сёння ёсць, што рыхтуецца той Вялікі месяц нашага вяртання ў светлае мінулае, то вядзецца патрэбная растлумачальная работа сярод электарата. Гэтак нас з табой цяпер абзываюць. Ты ж во параскінь мазгамі: БТ, радыё, афіцыйныя газеты і часопісы, прэзідэнцкія прапагандысты, дыпламатычны корпус, усе, хто ўмее больш-менш складна хлусіць і "лапшу" на вушы вешаць, кінуты на вельмі адказны для цяперашняй улады ўчастак — прапагандаваць тое, што ў нас дэмакратыі і свабоды нават больш, чым у той жа Францыі, (там гады са два таму, памятаеш, пабываў прэзідэнт. Ці то наш "бацька" на замежныя мовы слабаваты, ці перакладчыкі штосьці пераблыталі, ці, можа, сам "сябрук" нашага прэзідэнта Жак Шырак трохі прыбядніўся, але пасля вяртання з той кароценькай паездкі ў Францыю пайшло-паехала: у нас свабоды і дэмакратыі больш, чым ва ўсёй Еўропе — ад Шклова да Ольстэра). Прававой дзяржавы ў нас таксама хапае на ўсіх. Праўда, з турмамі кепска. Не хапае, перапоўненыя. Спяць там па чарзе. Ды гэта не так важна. Не спаць жа іх туды накіравалі, а сядзець. І працаваць ім не трэба. Гэта ж табе не ўдарная камсамольская будоўля, а самая сапраўдная пастсавецкая турма.

І незалежнасць нашу нічым такім не папракнеш, не падкапаешся. Граніцы на сапраўдным амбарным замку. Вось вазьмі хоць з Літвой. Двое журналістаў паспрабавалі прашмыгнуць на той бок? Ну, не мелі яны намеру збягаць. Каб мелі, то спакойна, без перашкод маглі б і на падводзе пераехаць, сем'і свае з пажыткамі перавезці. Ну, няхай сабе, выконвалі свой службовы абавязак. Але ж схапілі за рукаў. Ну, не на мяжы, а пазней. Гэта не так важна. І вось цяпер пасля доўгай дарогі на мяжу адпачнуць трохі ў ашмянскім засценку. А зірні ты на межы з Польшай, Латвіяй, Украінай. Мыш не працiснецца! З Расіяй? Не. Мы ж не зусім дурныя, каб зацягваць да канца ў сябе на шыі намыленую вяроўку. Недзе трэба ў гэтай агароджы пакінуць, так бы мовіць, аддушыну. У сабачай будцы і то лаз ёсць. У турэмнай камеры, скажам, таксама не глухія сцены, а краты прадугледжаны. Каб вязень які-небудзь заўчасна не даў дуба, або, крый Божа! які палітычны скапыціцца. Тады голасу і гвалту будзе на ўвесь белы свет. Ну, а што там надзвычай вільготна, то яшчэ Герадот, што жыў да нараджэння Хрыста ў старажытнай Грэцыі, пісаў, што край беларускі — адны балоты. Значыць, у турмах клімат звыклы, арганізм беларуса разам з эвалюцыяй прыстасаваўся да вільгаці. Так што і з гэтым усё ў парадку.

З харчаваннем насельніцтва? А пры чым тут харчы? Мы з табой размову вядзём пра палітыку, а ежа — катэгорыя не палітычная. І пра яе памаўчым. Ты не збівай мяне. Тым больш што ад голаду ў нас яшчэ ніхто не памёр! Ва ўсіх свой навукова і па-медыцынску абгрунтаваны дыягназ: у каго сардэчна-сасудзістая недастатковасць, у каго інфаркт, інсульт, рак, сухоты, СНІД... Ды ці мала на чалавека паслана розных хвароб! А каб ад голаду, барані Божа!.. Няма і ў медыцынскім даведніку такой хваробы? Ну, вось бачыш! Медыкі ў нас граматныя людзі, абы-чаго не прыдумаюць. Яны як у ваду глядзелі. Ведалі, мусіць, што ў бальніцах карміць не будуць. А што лячыць не будуць, ці напісана дзе? Не?! А што лекаў не будзе? Інструментаў, каб рабіць аперацыі? Не сцізорыкам жа апендыкс выкалупваць?! Для тых ёсць, хто ў "лапу"дасць? Ну, гэта не навіна. Так было, так будзе. Не мы першыя, не мы апошнія. Платная медыцына? А што ты думаеш?! Вось калі толкам разабрацца, то чалавек жа захварэў сам. Не дзяржава ж яго прымушала, скажам, хварэць на сэрца ці на сухоты, харчавацца чым патрапіла, гарэлку піць, сексам, даруй мне, Госпадзі, з кім прыйдзецца, займацца, нарэшце, піва халоднае ўжываць? Усё гэта ад самога чалавека залежыць, ад генетычнай спадчыннасці, ад уласнай неасцярожнасці, ад кепскіх пра сябе клопатаў. Пры чым тут дзяржава ці дзяржаўная медыцына? Дзяржава ж не можа лячыць усіх, хто пажадае. Ну, начальства, спецслужбы, ардэнаносцаў усякіх і народных якіх. Гэта само сабой. Яны там бліжэй да верхаводы, у іх служба больш важная, чым у нас з табой. А так няхай кожны адкладвае грошы на медыцынскі поліс, страхоўку, нарэшце, на ашчадную кніжку. У кожнага ж чорныя дні бываюць. Няма чаго адкладваць? Як сказаць! Піць жа ёсць за што, курыць? А крадуць колькі? Можна было б з крадзенага не ўсё на выпіўку пускаць, а патроху заначваць. Ды я табе скажу так: народ у нас не лыкам шыты, выкруціцца. Вунь пасля вайны як было? Памятаеш? Во-о... У калгасах не ведалі, што такое грошы, а тым больш зарплата. Выжылі! А тут два-тры месяцы, пяць, не выдадуць зарплаты, то ўжо на мітынгі валяць, на дэманстрацыі, пікеты ўсякія чыняць, а некаторыя з аднаасобнікаў абчэпяцца лозунгамі і стаяць, як пні пры дарозе, у адзіноце. Бачыш ты, яны пратэст выказваюць! А ў Расіі вунь па два гады людзі ў руках палучкі не трымалі, а глянь ты, стаіць матухна-Расія! І стаяць будзе! А ведаеш, чаму? Таму што там дужа моцная парода выведзена, патомства шарыкавых дужа жывучае. Там, братка, цэлыя паясы — адны шарыкавы. Чырвонымі яны там называюцца. У нас не тое. Разбаўляецца парода нацыяналістамі, апазіцыянерамі, фронтаўцамі. А там — не! Там аж цэлыя рэзервацыі існуюць цвёрдых ленінцаў. Кожная рэзервацыя — памерам з Беларусь. Вось з каго нам прыклад трэба браць! Працаваць трэба, а не мітынгаваць! Работы няма, прадпрыемствы стаяць? Ну, няхай пакуль што пастаяць. Не да другога ж прышэсця ім стаяць! Некалі ж запрацуюць. Значыць, пацярпець трэба. А як жа! Цярпець наш народ умее. Гэта ў яго зафіксавана генетычным кодам яшчэ з далёкіх ад нас часоў. А савецкі чалавек тым больш павінен быць цярплівым. Прэзідэнт жа нездарма заявіў, што возьме з савецкіх часоў усё лепшае. А лепшае, напомню табе, гэта — цярплівасць, паслухмянасць, падпарадкаванасць, павага да начальства, да яго абяцанняў, вера ў светлае будучае, надзея не лепшае жыццё. Вось што такое наша новая парода людзей! І ніякія дэмакраты, партакраты, апартуністы, нацыяналісты, капіталісты і анархісты не пахіснуць веру нашых людзей! І, я ўпэўнены, яны будуць верыць, спадзявацца, чакаць гэтага светлага мінулага аж да таго часу, пакуль дух з іх не выйдзе. Не мне ж табе расказваць, што надзея памірае апошняй, адразу за чалавекам. І, не згубіўшы надзеі, чалавек памірае шчаслівым. Горш было б, калі б чалавек паміраў пасля таго, як надзея адубее. А так тут прырода ўсё прадугледзела правільна. Навошта азмрочваць чалавеку такую важную падзею, як смерць. Кожны чалавек усё жыццё чакае гэтага найважнейшага перыяду ў сваім жыцці. Вось як нараджаўся, ён пра тое не памятае, а як памірае, то ўсё навідавоку. Радасць — не радасць, а, пагадзіся, падзея значная. Ён адыходзіць на той свет з адзінай думкай: я паміраю, але дзеці мае і ўнукі дачакаюцца лепшага жыцця! Заўважыў чалавек нават перад смерцю, пражыўшы доўгія гады, намучыўшыся і шмат чаго пабачыўшы на сваім вяку, а спадзяецца, што тыя, хто застануцца жыць, абавязкова дачакаюцца. І дзеці, унукі ягоныя, не дачакаўшыся, таксама паміраючы, гэтак жа будуць спадзявацца...

### Паміраць нам ранавата!

Жыць і спадзявацца! — вось лозунг наш і тых, хто нас вывеў, як пароду мужных, стойкіх і цярплівых людзей. Правільна, і паслухмяных, і маўклівых. Надзея, як вядома падахвочвае людзей яшчэ з жаўтаротага юнацтва, а потым застаецца жыць у чалавеку аж да самай дамавіны. Ну і што, калі ён палец аб палец не ўдарыў, каб наблізіць сваю мару? Гм... Працаваць... Ён і працаваў, і працуе, колькі яму скажуць і як скажуць. І яму больш ні пра што клапаціцца не трэба. Ён жа ўпэўнены, што пра яго паклапоціцца прэзідэнт, урад, начальства, старшыня калгаса або сельсавета. Як жа яму клапаціцца пра сябе? Адзін — добра, другі — ніяк. А гэта — несправядліва. А дзяржава паклапоціцца пра кожнага паасобку і аднолькава. І нікому крыўдна не будзе. У нас на дзяржаву грэх крыўдаваць. А інакш атрымаецца, быццам бы дзяржава чалавеку і зусім непатрэбная. А гэтага, браток, дапускаць нельга. Дзяржава наша — справядлівая, як ты ні павярні. Яна нікога ў крыўду не дасць. І тых, хто добра працаваў, і тых, хто абібокам усё жыццё прабадзяўся, і тых, хто ўвесь час стараўся "на халяву". І для гэтага, я лічу, нямала добрага робіцца. Вось і пенсіі ўсім аднолькава параўнялі. І ў першую чаргу пашанавалі рабочага чалавека, хто працаваў на фабрыках і заводах, хто стварыў матэрыяльна-тэхнічную базу камунізму. Апасля ўжо гэтым "белым каўнерыкам", інтэлігенцыі ўсякай. Ну, а тыя, хто служылі ў арміі, хто аціраўся ў міліцыі і каля яе, тым паёк большы паклалі. Яны, браток, выконвалі асабліва важнае заданне дзяржавы — падпіралі ўладу. А там праца, можаш здагадацца, для сапраўдных атлантаў. І не ўсіх туды бяруць. Гэта табе не п'янаму плот падпіраць. Думаеш, гэта проста вось так стаяць і падпіраць? Не! Не кожны ж здольны біць сваіх людзей нагамі, дубінкамі, сапёрнымі рыдлёўкамі. А ты думаеш, кожны здольны другому чалавеку адбіць ныркі, лёгкія, мазгі? Не кожны! Туды набіраюць асобныя медыцынскія камісіі. Каб і рост быў, і галава адпаведная, і сіла ў мускулах. Ну, каб здольны быў падпіраць і больш ні аб чым не думаць. Вось як некалі тыя, што выконвалі прысуды "троек", трыбуналаў, спецкамісій. А таму за такую асаблівасць іхняй службы ім і пенсіі, і льготы адпаведныя. А як жа!

Па Сеньку і шапка. Гэта, калі вось параўноўваць, то яны як тыя каранныя жарабкі ў запрэжках. Павер мне, на іх увесь цяжар кладзецца. Праўда, з "караннымі" ў нас у краіне ўсё ў парадку. Ледзь што крамольнае або што не падабаецца ўладзе, улезе каму ў галаву, той і пікнуць не паспее: "каранныя" тут як тут, і сталёвыя бранзалеты шчоўкнуць на тваіх ручках. І дагледзіць такія службы дзяржаве прыходзіцца надзвычай клапатліва. І гэта лёгка заўважыць нават знешне. Вось паглядзі на гэтых "каранных": каркі лаcняцца, морды чырвоныя, гладкія такія, аж вушы ў шыі паўрасталі. Ну, што ты хочаш? Для такой справы і харчы даюць адпаведныя, і апранаюць, аклады і пайкі — не раўня іншым. Гэта табе не каля станка стаяць, не на будаўнічых рыштаваннях, карміць або даіць кароў. І прафесія такая, што цяпер, не паверыш, нарасхват. Кожны, хто на капейку ўзбіўся, хто каля прэзідэнта ў падшыванцах аціраецца, хоча, каб і яго абавязкова падпіралі. Не, не тое, што старыя, самі на нагах стаяць не могуць. "Каранныя" — гэта тыя, хто целы начальнікаў беражэ. Целаахоўнікамі яны называюцца. Не ўсе "каранныя" — ахоўнікі, але цяпер шмат іх. Свет стаў такім, што некаторых прыходзіцца, чуў я, падпіраць нават тады, калі тыя... Падсунься бліжэй, на вуха скажу... У ложку з жонкай або іншай якой маладзіцай. Што ж ты хочаш? Страху такога нагналі на людзей. Рэкеціры, кілеры, усякія "новыя" і "крутыя", а часам і бандыты, пераапранутыя ў міліцыю, а, бывае, граху на іх няма, і сама міліцыя так і глядзіць, каб больш тлусты кавалак адсцягнуць ад чужога сцягна. Адным словам, як гаворыць наш "бацька", рынкавы сацыялізм перажывае сёння сваё станаўленне. А гэта значыць, развіваецца, узрастае, сілы і моцы набіраецца. Хутка гэты здаравенны "дзяцюк", пэўна, на ногі стане. Ну, тады трымайся, браток: была б непагадзь, ды дождж прыспяшаў. Давядуць да таго, што сам скажаш: "Дзень добры, бацюшка! Ці дома поп?" Кпіны — кпінамі, кот каўбасу ўнюхаў. Вось так, дарагі ты

